


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 верасня 2000 года
№ 37 (282)
Цана ў розніцу 85 рублёў

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна



### Суд над «маньякам са шпрыцам»

У судзе Мінскага раёна і Заслаўя пачалося слуханне крымінальнай справы ў дачыненні да так званага "маньяка са шпрыцам". На лаўцы падсудных – 50–гадовы мінчанін Аляксандр Х. Ён абвінавачваецца па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэксу, у іх ліку "Распусныя дзеянні", "Хуліганства", "Супраціўленне работніку міліцыі".

Нагадаем, выпадкі, калі маньяк мінулым летам па начах прабіраўся ў дзіцячыя аздараўленчыя летнікі, рабіў уколы дзяўчынкам і знікаў, мелі вялікі рэзананс у рэгіёне. Затрымалі падсуднага на Валожыншчыне.

**Аддзел інфармацыі.**

### Рэзкае падаражанне тарыфаў на цяпло і электраэнергію

На 30% болей неабходна будзе плаціць за ацяпленне і гарачую ваду ў восеньска–зімовы перыяд 2000–2001 года.

З 11 верасня ацяпленне 1 квадратнага метра агульнай жылой плошчы кватэры каштуе 60 рублёў. Кошт карыстання гарачай вадой падымаецца да 289 рублёў за аднаго чалавека. Тарыфы на электраэнергію традыцыйна ўзраслі адразу ў 2 разы.

**Аддзел інфармацыі.**

### Перад цяжкай зімой ваду перакрываюць

МАЛАДЗЕЧНА. У адпаведнасці з распараджэннем канцэрна "Мінскэнерга" аб зніжэнні тэмпературы сеткавай вады ўдзень да 50°, а ўначы да 40°, маладзечанцам перакрываюць ваду. Пакуль толькі гарачую.

У горадзе згаданае распараджэнне скарэкціравалі. Цяпер маладзечанцы будуць мець гарачую ваду ад 6.00 да 22.00. Намеснік начальніка маладзечанскіх электрасетак **Леанід Кузняцоў** тлумачыць вымушаную меру неабходнасцю падрыхтоўкі да ацяпляльнага сезона.

Дазвол на такі графік дае непасрэдна канцэрн "Мінскэнерга", ён жа дасць каманду і на адмену яго. Альбо на больш рашучае адключэнне гарачай вады.

**Аддзел інфармацыі.**

### Ля запраўкі адчынілася кафэ

ВІЛЕЙКА. У верасні каля новай запраўкі, што ля вёскі Ручавіна на дарозе Мінск–Нарач адчынілася невялікае ўтульнае кафэ ад Вілейскага гандлёва–вытворчага аб'яднання "Крыніца". Цяпер аўтамабілісты не толькі пояць сваіх жалезных коней, але і падсілкоўваюцца самі.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

### Смаргонь гаворыць голасам «Сталіцы»

СМАРГОНЬ. Тут пачаў працаваць новы радыёперадатчык на хвалі 101,4 Мгц. Гэта дазваляе упэўнена прымаць радыё "Сталіца" – былое мінскае абласное радыё – з пэйджынгавым сігналам RDS у радыусе 35 км вакол Смаргоні. Цяпер смаргонцы маюць магчымасць абзавесціся і пэйджынгавай сувяззю.

**Мікола ЛІННІК.**

### Новыя камп'ютэры для школ

МЯДЗЕЛ. 16 новых камп'ютэраў атрымаў раённы аддзел адукацыі. Пайшлі яны ў тры школы. Найбольш – 10 – дасталося СШ №1 райцэнтра, астатнія "выехалі" ў сельскія.

Яны заменяць дапатопную тэхніку, на якой дагэтуль дзеці навучаліся інфарматыцы. Новыя камп'ютэры дазволяць на базе школы праводзіць заняткі групы вучэбна–вытворчага камбіната.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 16 верасня**

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 5 - 6°С (уначы)<br>8 - 9°С (удзень) | 3°С (уначы)<br>6°С (удзень) |

**Нядзеля, 17 верасня**

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 3 - 4°С (уначы)<br>8 - 9°С (удзень) | 0°С (уначы)<br>9°С (удзень) |

# Прыватнік плаціць беспрацоўнаму больш за дзяржаву

**МАЛАДЗЕЧНА. «Бульбяная тэма» сёння - галоўная. Гарачыя дзянькі цяпер і для беспрацоўных, якія актыўна занятыя на копцы. Прыватнікі за дзень работы даюць работніку мяшок бульбы, калгасы вядро, ды і то не заўсёды. «Першы ў дадатак яшчэ і накорміць», гавораць беспрацоўныя.**



Уборка бульбы. У калгасе імя XXI з'езда КПСС (Вілейскі раён) на мінулым тыдні. *Фота Ігара Мароза*

У адным з калгасаў (канкрэтная назва ёсць у рэдакцыі) іх трымаюць за рабоў. Жанчын, а іх большасць, прымушаюць выконваць цяжкія фізічныя работы. Аднойчы грузілі салетру без рэспіратараў. У гэтым калгасе асноўная рабсіла – маладзечанскія беспрацоўныя. "Штатных" работнікаў там адзінкі.

Адпраўляюцца рабочыя ў пачатку дзевятай гадзіны раніцы, прыязджаюць у шэсць вечара (паўгадзіны маюць на абед). Такі расклад дня, праўда, у лепшым выпадку. Здараецца, прыязджаюць на гадзіну-дзве пазней.

Вядро бульбы за дзень давалі ад пачатку мінулага тыдня – раней наогул абыходзіліся пяццю кілаграмамі. Прычым "тавар" даюць, у асноўным, другасортны. Галоўная тэма ранішніх размоў – дзе, як і колькі ўчора заплацілі.

Ля аўтобусаў раніцой утвараюцца чэргі. Гэта ведаюць у калгасах, таму на прэтэнзіі адказваюць: не падабаецца – не ездзі.

Добра плацяць прыватнікі і калі забіраюць беспрацоўных на будаўніцтва дач ці катэджаў. Але пра гэта - у наступных нумарах.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ АНОНС

## Ля апошняй рысы




Так завецца першая кніга прозы віляйчанкі Наталлі Валынец, журналісткі з раённай газеты "Шлях перамогі". Па словах аўтара, яна спрабуе зразумець, якія сілы кіруюць чалавекам у неардынарных сітуацыях, вядуць яго па жыцці, на якія, не заўсёды зразумелыя ўчынкі, ён здатны. Асабліва каля апошняй рысы.

Героі кнігі апавяданняў, якія маюць дакументальны грунт, звычайныя людзі, пастаўленыя ў незвычайныя сітуацыі. Зборнік выдадзены Таварыствам "Хата" (заснавальнік – Беларускі дзіцячы фонд). 15 жніўня ён прадстаўляецца ў выставачнай зале Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея. Пачатак прэзентацыі а 17–й гадзіне. Падзея адбываецца напярэдадні юбілею аўтаркі.

**Мікола ГАЙДУК.**

## Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Хто з маладзечанцаў здольны вас здзівіць?



**Таццяна Мучынская, намеснік дырэктара цэнтра занятасці:**

– Мне хацелася б, каб здзівіў дырэктар "Спадарожніка" Уладзімір Шпакаў. Я была ў складзе інфармацыйнай групы на заводзе, і тады дырэктар не змог адказаць на пытанне: "Што трэба зрабіць, каб завод запрацаваў?".

Дарэчы, толькі за першыя 7 месяцаў года ў цэнтры зарэгістравана 275 скарочаных рабочых са "Спадарожніка". Па горадзе гэта рэкордны паказчык.



**Аляксандр Звяруга, навучэнец палітэхнікума:**

– У пятніцу гадзіну стаяў на прыпынку і чакаў аўтобус. Хацелася б, каб здзівіў дырэктар аўтапарка тым, што аўтобусы хадзілі б своечасова і прамежкі паміж імі былі мінімальныя.

**Наталля Вавілава, малодшы навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея, Маладзечна:**

– Я не ведаю тую асобу, што магла б мяне здзівіць. Хаця, у прынцыпе, гэта здольны зрабіць кожны, нават самы звычайны, чалавек.



**Андрэй Мельнічэнка, фанат ФК "Маладзечна" і асабіста Паўла Шаўрова :**

– Хацелася б, каб Людас Румбуціс вывеў нашу футбольную каманду не толькі ў вышэйшую лігу, але і ў еўракубкі. І каб там ФК "Маладзечна" прайшоў некалькі раўндаў! Мусіць, здзівіўся б не толькі горад, але і ўся Беларусь.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАША ГІСТОРЫЯ

# Мытнай службе рэгіёна – 500 год

**Камора (мытная, таможня, мытня) – спецыяльны дзяржаўны дом у Вялікім княстве Літоўскім у XV-XVIII стагоддзях, у якім агляддаўся, ацэньваўся тавар, што правозіўся купцамі па тэрыторыі княства, і спаганялася мыта. Каморы стаялі на ўсіх галоўных гандлёвых шляхах, а іх аддзяленні (прыкаморкі) – на другарадных дарогах.**

На тэрыторыі нашага рэгіёна знаходзіліся два прыкаморкі – у Ашмянах і Радашковічах. Купец, які прыехаў да першай каморы ці прыкаморка, быў абавязаны прад'явіць службовым асобам (спраўцы – кіраўніку, рэвізору, пісару, варце) увесь тавар, адзначыць яго колькасць, якасць, кошт, каму належыць, адкуль прывезены і куды дастаўляецца. Гэтыя звесткі правяраліся і заносіліся ў мытныя кнігі. Заплаціўшы мыта, уладальнік тавару атрымліваў квіток і ехаў да названага ім месца прызначэння.

Усё як цяпер, нават таможня знаходзілася амаль у адным месцы: Ашмяны – Ашмяны, Радашковічы – Маладзечна. Такім чынам, нашых мытнікаў, у якіх 20 верасня прафесійнае свята, можна павіншаваць з 500-годдзем працоўнай дзейнасці.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

## 100 гадоў мясакамбінату

**АШМЯНЫ.** У верасні спаўняецца 100 год з дня заснавання мясцовага мясакамбіната.

Апошнія два дзесяцігоддзі прадпрыемствам кіруе **Тацдяна Філіповіч**. Юбілейныя святы пройдуць у гэтым месяцы, але канкрэтную дату кіраўнік не назвала.

Жыхары райцэнтра сведчаць, што мясцовы мясакамбінат – адно з некальких прадпрыемстваў раёна, якія паспяхова развіваюцца і ў цяперашніх умовах.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Станказаводу можна павучыцца ў «Электрамодуля»

**Калегія Мінпрыроды разгледзела праблему папярэдняй ачысткі гальванічных адходаў**

На шэрагу прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці апошнімі гадамі павысілася эфектыўнасць працы ведамасных ачыстных збудаванняў, якія перапрацоўваюць сцёкі гальванічных вытворчасцяў. Сярод іх – маладзечанскі «Электрамодуль».

Разам з тым многія прадпрыемствы Міністэрства прамысловасці з-за адсутнасці ведамасных ачышчальных збудаванняў або зношанасці іх абсталявання працягваюць скідванне неачышчаных гальванічных адходаў у сістэму гарадской ліўневай каналізацыі. Сярод прадпрыемстваў, якія скідваюць свае сцёкі з перавышэннем утрымання цяжкіх металаў, – маладзечанскі станкабудаўнічы завод.

**Па звестках БелаПАН.**

■ ЗАКАНАДАЎСТВА

# Законапраект аб судовых приставах

**МІНСК. Міністэрства юстыцыі мае намер у 2001 годзе ініцыіраваць разгляд у парламенце законапраекта аб судовых прыставах. Пра гэта паведаміў журналістам міністр юстыцыі Генадзь Варанцоў (нагадаем, ён нарадзіўся ў Вілейцы, доўгі час працаваў у Маладзечне).**

Як адзначыў **Генадзь Варанцоў**, на працягу двух апошніх гадоў Мінюст двойчы ўносіў прапанову прыняць падобны праект закона ў розных варыянтах, аднак гэтага пакуль не адбылося.

Як вядома, увядзенне інстытута судовых прыставаў планавалася заканадаўча замацаваць у новым Крымінальна-працэсуальным кодэксе, які ўступіць у сілу 1 студзеня 2001 года. Аднак з гэтым нововядзеннем не пагадзіўся кіраўнік дзяржавы, палічыўшы, што ў дзяржаўнай казне няма сродкаў для аплаты працы новых штатных адзінак. У выніку гэтае палажэнне з кодэкса было выключана.

Тым не менш, як сказаў міністр, на наступны год урад мае намер усё ж чарговы раз прапанаваць уключыць праект закона аб судовых прыставах у пералік законапраектаў, якія павінны быць прыняты на працягу 2001 года. Гэты пералік, нагадаем, зацвярджаецца ўказам прэзідэнта.

Паводле слоў Варанцова, мяркуецца, што, у адпаведнасці з новым законапраектам, судовыя приставы ў Беларусі будуць не толькі падтрымліваць парадак у зале судовых пасяджэнняў, але і выконваць абавязкі судовых выканаўцаў.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

# Супярэчнасці ў заканадаўстве аб жыллі

**МІНСК. Канстытуцыйны суд (КС) прапануе ўраду ліквідаваць супярэчнасці ў заканадаўстве, якое рэгламентуе пытанні аплаты за карыстанне жылымі памяшканнямі і аплаты за іх тэхнічнае абслугоўванне.**

У адпаведнасці з рашэннем КС, прынятым 5 верасня, павінны быць зменены або адменены нормы пастановы Савета Міністраў ад 28 красавіка 2000 г. № 606. Гэтым дакументам устаноўлена, што плата за карыстанне (тэхнічнае абслугоўванне) жылога памяшкання ў межах 20 кв. метраў на кожнага члена сям'і і яшчэ 10 кв. метраў – на ўсю сям'ю бярэцца па нарматывах, а плата за карыстанне (тэхнічнае абслугоўванне) астатняй жылой плошчай – у павышаным памеры.

Канстытуцыйны суд прапануе ўраду пры падрыхтоўцы новых прававых норм браць за аснову палажэнні закона «Аб сумесным домаўладанні», а пры вырашэнні пытання аб аплаце за жыллё зыходзіць з неабходнасці больш поўнага ўліку прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. І асабліва, у дачыненні да грамадзян сацыяльна не абароненых катэгорый (пенсіянераў, інвалідаў і інш.), якія з'яўляюцца карыстальнікамі або ўладальнікамі жылых памяшканняў, плошча якіх перавышае ўстаноўленыя нарматывы. У адпаведнасці з рашэннем КС, памер аплаты ўласнікамі жылых памяшканняў за іх тэхнічнае абслугоўванне не павінен перавышаць аналагічную плату наймальнікаў жылых памяшканняў.

Савету Міністраў прапанавана таксама ўдакладніць і канкрэтызаваць тэрміны і паняцці, што выкарыстоўваюцца ў жыллёвым заканадаўстве, з тым, каб іх выкарыстанне на практыцы не выклікала розначытанняў.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**



Фота з Internet-архіва «РГ»

Цэны на паліва растуць. Ці не прыйдзецца аўтамабілістам асвойваць такі від транспарту?

■ ЦЭНЫ

## Паліва няўхільна даражэе

На 12% падняліся цэны на бензін і дызпаліва. У Вілейцы на запраўцы АІ-76 каштуе 334 рублі, АІ-92 – 433, ДП - 310. Гэта падаражэнне звязана з ростам цэнаў на сырую нафту на сусветным рынку. Цяпер яна складае 32,7 долара за барэль (бочка 158,98 дм³), яшчэ некалькі месяцаў таму нафта каштавала 29 долараў за барэль.

Нягледзячы на тое, што Беларусь закупляе нафту ў "брацкай" Расіі, нас не абмінула чарговае сусветнае падаражэнне паліва. У Англіі, Францыі, Бельгіі вадзіцелі вялікагрузных аўтамабіляў перакрываюць дарогі ў знак пратэсту супраць падаражэння паліва. У нас ціха.

Па прагнозах, цана на нафту можа падскочыць да 35 долараў за барэль, што будзе азначаць яшчэ адно падаражэнне паліва на 10–15%.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ АЎТА–МОТА

# Па Мінску – ад 70 да 90 км/гадзіну

**МІНСК. Апошнім часам на некаторых праспектах і вуліцах Мінска з'явіліся ўчасткі, дзе дазволены рух з хуткасцю, якая перавышае ўстаноўленую правіламі дарожнага руху для язды ў населеных пунктах (60 км/гадз.).**

Сярод апошніх нововядзенняў сталічнай дзяржаўтаінспекцыі трэба адзначыць дазвол руху транспартных сродкаў з хуткасцю 70 км/гадз. на некаторых участках Партызанскага праспекта, на ўчастку вуліцы Арлоўскай паміж двума скверамі перад плошчай Бангалор, а таксама дазвол руху з хуткасцю ад 90 да 70 км/гадз. практычна на ўсёй працягласці праспекта Машэрава, пачынаючы ад Мінскай кальцавой дарогі.

Як ва ўпраўленні ДАІ ГУУС Мінгарвыканкома, павелічэнне хуткасных рэжымаў на некаторых магістралях сталіцы звязана з неабходнасцю павелічэння прапускной здольнасці вулічнай дарожнай сеткі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7 верасня | 14 верасня |
|---|---|---|
| Долар | 960,00 руб. | 1020,00 руб. |
| Нямецкая марка | 403,22 руб. | 452,94 руб. |
| Літ | 239,94 руб. | 254,97 руб. |
| Расійскі рубель | 34,43 руб. | 36,66 руб. |
| Злоты | 220,13 руб. | 228,06 руб. |
| ЕЎРА | 847,30 руб. | 885,87 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1010 – 1030 руб. | 1020 – 1040 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 06.09 | 13.09 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4975 | 4970 |
| Сасіскі, 1 кг | 1540 | 1640 |
| Селядзец, 1 кг | | 910 |
| Рыс, 1 кг | 355 | 360 |
| Грэчка, 1 кг | 610 | 600 |
| Цукар, 1 кг | 455 | 450 |
| Алей, 1 л | 740 | 740 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | 380 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 160 |
| Кава "Пеле", 100 г | 950 | 950 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 300 | 310 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 350 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 950 | 930 |
| Апельсіны, 1 кг | 550 | 530 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 220 | 220 |
| Капуста, 1 кг | 90 | 80 |
| Кавун, 1 кг | 180 | 160 |
| Дыня, 1 кг | 500 | 500 |
| Вінаград, 1 кг | 900 | 980 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 700 | 700 |
| Масла, 1 кг | 1600 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 450 | 500 |
| Малако, 1,5 л | 200 | 250 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 600 |
| Бульба, малое вядро | 320 | 300 |
| Морква, 1 кг | 200 | 180 |
| Журавіны, малое вядро | 5000 | 5000 |
| Агуркі, 1 кг | 200 | 200 |
| Памідоры, 1 кг | 330 | 350 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 200 |
| Грушы, 1 кг | 250 | 250 |

■ КРЫМІНАЛ

## Аўтамабілі крадуць усё часцей

**АШМЯНЫ. Усё больш актуальнай становіцца для Гродзеншчыне праблема крымінальнага аўтабізнесу. За восем месяцаў 2000 года тут учынены 144 крадзяжы аўтатранспарту.**

Упершыню сёлета ўскладнілася становішча ў Ашмянах, дзе ўчынены 8 крадзяжоў і ніводзін з іх не быў раскрыты.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку валодаюць інфармацыяй пра тое, што на тэрыторыі Гродзенскай вобласці дзейнічаюць некалькі арганізаваных злачынных груповак, якія займаюцца крадзяжамі аўтамабіляў «на прафесійнай аснове».

## Разбойны напад на расіяніна

**СМАРГОНЬ–АШМЯНЫ.** Падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы па факце разбойнага нападу стаў зварот у Іўеўскі РАУС жыхара Калінінграда. Ён заявіў, што 31 жніўня на аўтадарозе Вільнюс–Мінск, як мяркуецца, у Ашмянскім або Смаргонскім раёнах, яго спынілі двое невядомых у камуфляжнай міліцэйскай форме. Пагражаючы пісталетам, зламыснікі завалодалі аўтамабілем «Аўдзі А-4», які расіянін пераганяў у Маскву для продажу, 426 доларамі ЗША і 4.300 расійскімі рублямі. У машыне знаходзіліся яго ныя расійскі і замежны пашпарты, пасведчанне кіроўцы, дакументы на аўтамабіль і даверанасць.

## Валюту вывозяць нелегальна

**СМАРГОНЬ.** Некалькі спроб незаконнага вывазу валюты з Беларусі ў Літву прадухілілі пагранічнікі Смаргонскага пагранатрада сумесна з мытнікамі падчас правядзення спецыяльнай пагранічнай аперацыі «Мяжа–2000». Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, найбольшая колькасць спроб кантрабанднага вывазу валюты зафіксавана ў пункце пропуску «Каменны Лог».

Напрыклад, у адным з выпадкаў 850 долараў ЗША знойдзены пры аглядзе аўтамабіля «Мерседэс» пад кіраваннем грамадзяніна Узбекістана. Кантрабандная валюта была схавана пад сядзеннем аўтамашыны. У другім выпадку 23 тысячы долараў ЗША памежнікі знайшлі ў тайніку, абсталяваным грамадзянінам Літвы ў грузавым аўтамабілі «SCANIA».

**Па матэрыялах БелаПАН.**

# Аляксандр Дзяруга – Макаранка са Смаргоні

Для кожнага чала века мастацтва са Смаргоншчыны Аляксандр Дзяруга быў і застаецца сімвалам дабрыні, высокай культуры і духоўнасці, самаадданасці ў эстэтычным выхаванні.

Не ведаю, як бы склаўся лёс кожнага з нас, каб не сустрэча з гэтым цікавейшым чалавекам.

Родам з Ракава. Давялося жыць у Беластоку, Вільні і больш за палову свайго жыцця – у Смаргоні.

Скончыўшы польскую гімназію ў Вільні, Аляксандр Дзяруга атрымаў добрую і ўсебаковую, па тым часе, адукацыю.

Цікавы, інтэлігентны чалавек не мог не спадабацца гімназістцы Надзеі, якая потым стала яго жонкай. Бацька Надзеі Канстанцінаўны, Кастусь Іванавіч, быў адвакат. Ён скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, пісаў вершы, музыку, іграў на скрыпцы, быў заўзяты садавод, пчаляр. А ў час адпачынку мог пашыць альбо адрамантаваць нават самы мадэльны абутак.

Кастусь Іванавіч стаў жыць у Смаргоні са сваёй жонкай і дзецьмі, калі купіў там хату і давёў яе да ладу сваімі залатымі рукамі.

Гонарам сям'і быў прадзед І. Ігнатовіч, протаіерэй, настаяцель царквы ў Залессі, айцец Ігнат.

Менавіта ўсе гэтыя абставіны і паўплывалі на высокую духоўнасць у сям'і.

Аляксандр Анісімавіч валодаў гітарай, мандалінай і балалайкай, яго жонка цудоўна іграла на раялі, а Кастусь Іванавіч любіў са сваёй скрыпкай прымаць удзел у сямейных канцэртах.

Дзецьмі мы вельмі любілі гэты ўтульны дом па вуліцы Танкістаў. У вялікай зале стаяў раяль, а ў куце, абклееная шпалерамі, была фотакабіна, якая зусім не шкодзіла агульнаму інтэр'еру. На сценах вісела мноства мастацкіх твораў, сярод якіх былі фатаграфіі работы Аляксандра Анісімавіча.

На ўсё жыццё я запомніў прыгожы па настроі і дакладны па кампазіцыі куток зімовага парку, дзе былі заснежаныя лава і дрэвы, ад якіх веяла цішынёй і нейкім незвычайным спакоем.

Упершыню тут я ўбачыў стэрэаскапічную фатаграфію, і гэта было якіх–небудзь 45 год таму. У Аляксандра Анісімавіча быў апарат, які двума аб'ектывамі адначасова на шырокай стужцы рабіў два аднолькавыя негатывы. Потым кантактным спосабам друкаваліся здымкі, якія клаліся на спецыяльнае прыстасаванне, наводзілася рэзкасць і праз два шкелцы можна было назіраць стэрэаскапічны эфект.

На адным са здымкаў была курыца з куранятамі. Адчуваўся такі аб'ём, паветра, што кожную саломінку пад нагамі куранят хацелася ўзяць у рукі.

Каля хаты расло мноства кветак і быў вялікі дагледжаны сад з каранікамі пчол.

Надзея Канстанцінаўна ніколі не адпускала з хаты без гарбаты і пачастункаў. Шмат маладзейшая за мужа, яна была вельмі прыгожая і абаяльная, добра валодала французскай і польскай мовамі.

Шчаслівыя былі тыя дзеці, з якімі яна праводзіла музычныя заняткі ў дзіцячых садках Смаргоні.

Незвычайны талент выхавальніка быў у А. Дзяругі. Гэта быў смаргонскі А. Макаранка, да якога цягнуліся дарослыя і дзеці.



Аляксандр Дзяруга.

Фота з архіва аўтара.

Не ведаю, ці атрымліваў ён якую зарплату, ды і ці былі такія грошы, каб ацаніць яго працу.

Мерапрыемствы па спорце – ён там, святы Першамая і Кастрычніка – ён на дэманстрацыі, рэгістрацыя шлюбу – з фотаапаратам і віншаваннямі, школьныя балі выпускнікоў, выстаўкі кветак, агляды мастацкай самадзейнасці, святы працы і песні – зноў ён.

Пакуль на танцпляцоўцы альбо ў РДК не адгучыць апошні танец і моладзь не разыдзецца, ён сочыць за парадкам.

Сваім фотаапаратам ён пісаў гісторыю горада, дарэчы, апарат заўсёды быў з ім і ніколі Аляксандр Анісімавіч не ўзяў з чалавека ні капейкі за здымак.

Ніколі ў яго руках я не бачыў грошы. Відаць, для яго яны не былі галоўным у жыцці.

Ён жыў як мастак, аддаючы самога сябе людзям.

На адным з выступленняў смаргонскага цымбальнага аркестра на тэлебачанні я пазнаёміўся з Міхалам Ляпехам, захавальнікам хаты-музея Ф. Багушэвіча ў Кушлянах, які потым стаў маім лепшым сябрам на ўсё жыццё. Рухавы, з сівізной на скронях чалавек з выразным тварам беларуса, адразу спадабаўся рэжысёрам. Тады была зіма, і ён быў абуты ў валёнкі. На ранішняй рэпетыцыі рэжысёр зрабіў заўвагу наконт абутку.

Міхал Сымонавіч, доўга не думаючы, пайшоў і купіў новыя кірзавыя чаравікі. Ну, думае, цяпер я ім дагадзіў.

Тыя паглядзелі на тэлевізійны вобраз беларуса – зноў незадаволеныя. Не надта стасуюцца суконныя порткі крою ґаліфэ і чаравікі.

А чаму было не ўзяць чалавека больш буйным планам? Відаць, такі быў час, прамы эфір. Трэба было ўсё прадугледзець, каб не страціць работу.

Доўга вучылі Міхала Сымонавіча, як весці аповяд пра курныя хаты, якія ён яшчэ застаў у сваім сялянскім жыцці.

Нарэшце, яму сказалі:

– Калі загарыцца на камеры вось гэтая маленькая лямпачка, тады пачынай гаварыць, і ні слоўца лішняга.

Перадача пачалася. Сядзіць цымбальны аркестр, вядучыя.

Справа дайшла да Міхала Сымонавіча. Вядома ж, ён адчуваў вялікую адказнасць за ўсё тое, што скажа, і на нейкую хвіліну застаўся са сваімі думкамі.

Доўга гарыць тая лямпачка, і, нарэшце, Міхал Сымонавіч, вымавіў першыя словы:

– Ужо гаварыць? Так.

Седзячы без справы за цымбаламі, я назіраў гэтую сцэну. Бедны рэжысёр аж навушнікі зняў са злосці.

Наогул, з гэтым прамым эфірам адбывалася шмат недарэчнасцяў.

Сяджу ў Смаргоні каля тэлевізара і чакаю перадачу пра дзіцячы цымбальны аркестр, які Аляксандр Анісімавіч звазіў на гастролі ў міжнародны піянерскі лагер "Артэк". У яго быў такі вялікі аўтарытэт, што ён без цяжкасцяў мог зрабіць любую паездку. Шкада, што ў той час за мяжу не пускалі, а то ён бы і ў Амерыцы іграў для нашых беларусаў.

Спачатку дзеці весела расказвалі пра жыццё ў піянерскім лагеры, мора, сустрэчы з дзецьмі ўсяго свету, дружна выконвалі песні, якія яны там вывучылі.

Зайграў аркестр – і па сэрцы пайшла нейкая асалода. Гучыць беларуская мелодыя, Аляксандр Анісімавіч дырыжыруе, камера звонку буйным планам трымае партрэт дырыжора. Па губах, якія кратаюцца разам з музыкай, адчуваеш, што ён інтаніруе, прапяваючы пра сябе выконваемы музычны твор, робіць тое, чаму мы сёння вучым.

Камера пераходзіць на рукі, аператар доўга трымае гэты кадр – і, нарэшце, зусім не дырыжорскі жэст. Аляксандр Анісімавіч трасе сваім творчым кулаком. Баючыся нечага горшага, аператар адвёў камеру ўбок, згубіўшы рэзкасць.

Я ледзьве не зваліўся з канапы. А што здарылася на самой справе? У студыі аркестр сядзіць, абстаўлены маніторамі, а ў час выканання дзеці пачалі самі сябе разглядаць, забыліся, чаго яны сюды прыехалі.

Са Смаргонню ў мяне звязаныя самыя яркія пачуцці і старонкі жыцця.

У малым складзе народнага ансамбля песні і танца імя А. Агінскага мяне запрасілі прыняць удзел у паездцы ў ГДР. Каб аформіць дакументы, як заўжды, даецца мала часу, і мне неабходна было прадаставіць характарыстыку з рашэннем бюро маладзечанскага гаркома партыі. Не ведаў я тых людзей, і яны мяне, але ж мне патрэбны былі напісаныя слоўцы, што я маральна ўстойлівы. Тэлефонаў тады, як сёння, шмат не было, але я ведаў, што дырэктар РДК Лукер'я Хвядосаўна вельмі хвалюецца, бо ёй трэба везці дакументы далей.

У гаркоме я адседзеў некалькі гадзін каля дзвярэй кабінета і, нарэшце, замітусіўся. У гэты момант дзверы адчыніліся і выйшаў нейкі чалавек, якому я адразу выказаў сваю занепакоенасць. На што ён мне строга адказаў:

– Будзеш шмат гаварыць – наогул не паедзеш.

Не ведаю, дзе сёння гэты мясцовы правадыр народа, а я як быў цымбалістам, так і застаўся ім па сённяшні дзень.

Гэта быў поезд дружбы СССР–ГДР, і дэлегацыю з Беларусі, якую ўзначальвала работнік ЦК ЛКСМБ Нэлі Кржыжаноўская, прадстаўлялі смаргонцы.

Сустрэча на нямецкай зямлі была проста фантастычная. У вялізным рэстаране з лёгкасцю размясціліся ўсе 300 удзельнікаў поезда дружбы і эстрадна-сімфанічны аркестр Берлінскага радыё і тэлебачання. Калі аркестр выканаў фантазію на тэмы рускіх песень "Кацюша", "Калінка", "Блакітная хустачка" і "Масква майская", залу страсянуў гром апладысментаў.

Гэта быў 1966 год, і мы адчулі, што крыху паднялася жалезная заслона паміж нашымі народамі і краінамі.

Спачатку ў маршруце былі прамысловыя гарады Котбус, Губен, Любен, Любенау, а потым культурна–гістарычныя Патсдам, Дрэздэн і Берлін.

Вось тады і ўбачыў я ўпершыню ў сваім жыцці знакаміты парк Сан–Сусі ў Патсдаме і карцінную галерэю ў Дрэздэне.

Пасля ў сваім жыцці я шмат чаго бачыў, але гэта было маё першае спатканне з творамі Пітэра–Пауля Рубенса, Вінцэнта Ван–Гога, Клода Манэ, скульптара і жывапісца Эдгара Дэга і, вядома ж, з "Сікцінскай мадоннай" Рафаэля.

Не ведаю, чаму так за нас хваляваліся, калі адпраўлялі за мяжу. У нашых людзей не было долараў, а былі пустыя кішэні, беларускае сала і талент за душой.

Я не змагу забыцца, як за тыя грошы, што нам выдалі на сувеніры, выдатны хірург Віктар Новікаў у кожным горадзе купляў медыцынскі інструмент, які яму быў патрэбны для аперацый.

На наступны год зноў была паездка. На гэты раз народны ансамбль песні і танца імя М. Агінскага паехаў у Беласток, Помжэ і Гайнаўку. Па фотаздымку я налічыў каля 60 удзельнікаў. Гэта было выдатнае выступленне славутага калектыву. Была экскурсія па Варшаве. Аж дух захапіла ад велічы польскай сталіцы. Знакамітае Старое места, оперны тэатр, помнікі "Ніка", "Сірэна", варшаўскае гета, Вісла, масты, касцёлы і, асабліва, той, дзе знаходзіцца сэрца майго любімага польскага кампазітара Фрэдэрыка Шапэна.

Кожны год, 1 сакавіка, у Маладзечне ў дзень нараджэння Ф. Шапэна мы ладзім вечарыну, дзе гучаць яго творы.

Далучыўшыся да культурнага асяроддзя Смаргоні, я пазнаёміўся з такімі вядомымі дырыжорамі–харавікамі, як Усевалад Кубаеўскі, Кастусь Паплаўскі, Уладзімір Раговіч, Анатоль Гіцэвіч, Адам Чопчыц, гродзенскім кампазітарам Аляксандрам Шыдлоўскім, харэографам Янкам Хворастам. А які цудоўны быў танцавальны калектыў пад кіраўніцтвам Святаслава Федаровіча, калі рабіліся першыя харэграфічныя спробы паставіць візітную картку калектыву – "Паланез" на музыку нашага земляка М. Агінскага.

Смаргоні пашчасціла на выдатнага музыканта Міколу Ходаша. Я вельмі высока цаню яго талент педагога, канцэртмайстра і нязменнага кіраўніка аркестравай групы ансамбля. Няўрымслівы чалавек, ён шмат зрабіў для культуры, якой заўсёды ганарылася Смаргонь.

Сёння народны цымбальны аркестр Смаргоні носіць ганаровае імя А. Дзяругі. Амаль 30 год ім кіруе яго вучань, выпускнік Беларускага ўніверсітэта культуры Альгерд Апановіч. Таленавіты чалавек, арганізатар, з дзяцінства іграе на цымбалах, добра ведае любы інструмент, мае вялікую дырыжорскую практыку – Аляксандр Анісімавіч перадаў свой аркестр у надзейныя рукі.

У мяне вельмі даўнія сяброўскія адносіны з сынам Аляксандра Анісімавіча, Міколам Дзяругам. Гэты выдатны педагог, кампазітар і піяніст жыве і працуе ў Мінску. Доўгі час працаваў канцэртмайстрам Дзяржаўнай Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы. У Міколы Аляксандравіча дзве дачкі. Старэйшая, Ганна, працуе эканамістам, малодшая, Наталля, – мастак, графік. Скончыла мастацкую вучэльню імя А. Глебава і цяпер рыхтуецца да паступлення ў Беларускую Акадэмію мастацтваў.

Таксама ў Мінску жыве і працуе ў філармоніі другі сын Аляксандра Анісімавіча – скрыпач Яўген Дзяруга. Гэты таленавіты музыкант аб'ездзіў амаль усю Еўропу.

Любімая дачка Аляксандра Анісімавіча, Таццяна, з адзнакай скончыла медыцынскую вучэльню і біялагічны факультэт БДУ. Жыве і працуе ў Вільні.

Аляксандр Анісімавіч нам такім і запомніўся: інтэлігент на дамскім веласіпедзе, з партфелем на рулі, заўсёды ў капялюшы і пад гальштукам.

У 2002 годзе мы будзем адзначаць 100-годдзе з дня нараджэння нашага дарагога Маэстра. Гэта была асоба. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі А. Дзяруга цалкам адпавядаў гэтаму высокаму і ганароваму званню.

**Юрый ЦЕРАБУН, выкладчык цымбалаў дзіцячай музычнай школы Маладзечна.**



**З моманту знікнення нашага калегі Змітра Завадскага мінула**

**70 дзён**

■ ВЫБАРЫ

## ЛДП і выбары

**МІНСК. Ліберальна-дэмакратычная партыя мае намер падаць у Вярхоўны суд іск аб адмене выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.**

Лідэр партыі Сяргей Гайдукевіч гаворыць, што да гэтага вымусілі масавыя парушэнні выбарчага заканадаўства, фіксуемыя членамі ЛДП па ўсёй краіне.

Найбольш абуральная сітуацыя, на яго погляд, у Маладзечанскай сельскай выбарчай акрузе, дзе на членаў партыі, якія ўвайшлі ў склад участковых камісій, аказваецца пастаянны ціск з боку мясцовых уладаў з тым, каб яны надалі заявы аб выхадзе са складу камісій.

**Па звестках БелаПАН.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Пытанне аб ціску на членаў участковых выбарчых камісій «РГ» задала міжрайпракурору Генадзю Вештарту.**

– Па просьбе райвыканкома, работнікі якога засумняваліся ў такім шматлікім прадстаўніцтве партыі ў выбарчых камісіях, мы праводзілі праверку. Натуральна, дасылалі людзям позвы, выклікалі 1 верасня ў пракуратуру – гэта звычайная практыка. Ніякага ціску на іх не рабілася. І ніхто нікога не заклікаў выходзіць з камісіі ці партыі.

Міжрайпракурор не пажадаў пакуль што гаварыць больш падрабязна, таму «РГ» правяла сваё расследаванне. Высветлілася, што распаўсюджваецца інфармацыя, нібы ў Маладзечанскай пракуратуры адраджаюць «37 год». Падобныя высновы робяцца на падставе задаваемых у пракуратуры пытанняў: Ты член ліберальна–дэмакратычнай партыі (ЛДП) ці не? Хто старшыня ЛДП? Хто такі Гайдукевіч? Хто сакратар раённай арганізацыі?

«Прапагандысты 37 года» не прыводзяць адказаў выкліканых у пракуратуру людзей. А некаторыя з іх упершыню чуюць пра ЛДП, нічога не ведаюць пра Гайдукевіча.

У маладзечанскай арганізацыі ЛДП зрабілі трапна, у стылі Жырыноўскага: 8 чалавек заднім числом (31 жніўня) выключылі з партыі (цяпер наогул не зразумець – былі яны калісьці членамі ЛДП або сапраўды пра яе нічога не чулі), адказы іншых апраўдалі тым, што яны, маўляў, баяцца рэпрэсій з боку ўладаў. Ліберал–дэмакраты вядуць перадвыбарчую кампанію ў сваім стылі.

Больш цікавыя падзеі маглі б адбыцца ў горадзе, аднак кандыдат–маладзечанец, які, па звестках «РГ», меў рэйтынг каля 80% (даследаванне сацыёлагаў), быў вымушаны забраць з выбарчай камісіі свае дакументы. Тым не менш, пэўная цікавасць застаецца, бо паспрачацца за лепшае жыццё ў Палаце прадстаўнікоў маюць намер, прыкладам, два сталічныя функцыянеры ад медыцыны.

**Аддзел інфармацыі.**

